# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№2 (237)
люты 2022

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” (у працэсе ліквідацыі)

# НЕ ВАЙНЕ!

## ВЫ МОЖАЦЕ ДАПАМАГЧЫ



вайна

# “МЫ БУДЗЕМ БАРАНІЦЬ ПРАВА НА МІР УСІМІ ДАСТУПНЫМІ НЕГВАЛТОЎНЫМІ СРОДКАМІ”

Беларуская грамадская супольнасць прыняла заяву супраць вайны з Украінай:

Мы, беларускія арганізацыі грамадзянскай супольнасці, вызнаем мір і бяспеку як неаспрэчныя каштоўнасці. У сваёй дзейнасці мы кіруемся стандартамі правоў чалавека і прынцыпамі гуманнасці. Мы шмат год працуем над тым, каб стварыць дэмакратычнае грамадства, свабоднае ад дыскрымінацыі, няроўнасці і гвалту. Мы не спынялі і не спыняем дзейнасць, нягледзячы на ціск, пераслед і жорсткія рэпрэсіі.

Мы падкрэсліваем, што цяперашняя нелегітымная ўлада рэалізуе палітыку, якая супярэчыць Канстытуцыі і міжнародным нормам, уцягнула Беларусь у ваенную агрэсію супраць Украіны і адпраўляе беларускіх вайскоўцаў і іншых асоб удзельнічаць у гэтай вайне. Існуючая нелегітымная ўлада, якая дазволіла размяшчэнне войскаў Расійскай Федэрацыі, прапусціла іх праз сваю тэрыторыю, на палітычным узроўні падтрымала агрэсію і паставіла пад пагрозу суверэнітэт і незалежнасць Беларусі.

Мы заяўляем сваю нязгоду з палітыкай нелегітымнага ўраду і будзем разам бараніць нашыя каштоўнасці, годнасць, правы чалавека і права на мір усімі даступнымі негвалтоўнымі сродкамі. Мы працягнем працаваць на карысць бяспекі і справядлівасці, салідарнасці і ўзаемападтрымкі, права на самавызначэнне, на карысць свабоды і незалежнасці.

З улікам вышэй адзначанага, мы заяўляем пра свой намер:

– працаваць разам над спыненнем вайны і перадухіленнем яе наступстваў;

– дзейнічаць супраць уцягнення беларускага народу ў ваенную агрэсію нелегітымным кіраўніком краіны;

– распаўсюджваць пэўную інфармацыю аб сітуацыі ў Беларусі і Украіне;

– падтрымліваць народ Украіны ў іх барацьбе за незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць;

– выказваць свой пратэст супраць ваеннай агрэсіі і пашыраць прынцыпы мірнага і добрасуседскага суіснавання дзяржаў;

– дапамагаць беларускай і ўкраінскай супольнасці выйсці з гуманітарнага крызісу.

Патрабуем не выкарыстоўваць тэрыторыю Рэспублікі Беларусь у якасці ваенных плацдармаў і тэрыторыі ваеннай агрэсіі.

Заклікаем арганізацыі і ініцыятывы грамадзянскай супольнасці далучацца да падпісання заявы і праявіць салідарнасць.

У сувязі з рэпрэсіўнай палітыкай цяперашняй улады ў дачыненні да арганізацый грамадзянскай супольнасці адзначаем, што падпісацца пад дадзенай заявай магчыма непублічна. Калі вы абіраеце варыянт публічнага падпісання, калі ласка, ацаніце рызыкі, звязаныя з Вашай бяспекай і бяспекай усёй каманды.

Мы можам даць вам кансультацыю ў сферы бяспекі і ацэнцы рызык для вас і вашай арганізацыі.

Падпісаць зварот можна па спасылцы.

# Зварот старшыні Рады БНР: АБ’ЯДНАЦЦА ДЗЕЛЯ ВЫРАТАВАННЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Дарагія суродзічы! Шаноўныя беларускі і беларусы!

Днямі пачула найбольш абразлівыя словы ў дачыненні да Беларусі за ўсе гады ад абвяшчэння Незалежнасці ў жніўні 1991 года: “Беларусь – васал Масквы”.

Вось куды давёў Аляксандр Лукашэнка нашую незалежную дзяржаву!

Страшна і сорамна!

Расейскія танкі імчаць па беларускай зямлі, каб атакаваць Украіну – і наш зноў знямелы народ маўчыць! А свет думае, што ўзурпатар прадаў зямлю Беларусі расейскаму агрэсару са згоды беларускага народа.

Але мы ведаем, што гэта няпраўда. Беларускі народ сам знаходзіцца ў няволі тырана, які трымаецца выключна на падтрымцы Пуціна.

Калі два гады таму беларускі народ паўстаў, каб выправіць памылку, зробленую ў 1994 годзе – на вуліцы Менску з’явілася бронетэхніка, вельмі падобная на тую, якая цяпер штурмуе ўкраінскія гарады. А Пуцін падтрымаў здзек Лукашэнкі супраць свайго народу.




Некаторыя кажуць, што надзеі на беларускую незалежнасць страчаныя пад ботам расейскага акупанта. Я з гэтым не згодная. Беларусь не страціць надзею, пакуль за яе б’ецца хаця б адно беларускае сэрца. А гэтых сэрцаў у Беларусі шмат. Іх значна болей, чым амапаўскіх дубінак у дыктатара, чым танкаў у ягонага маскоўскага гаспадара.

І сёння, калі беларуская незалежнасць пад пагрозай, мы мусім з’яднаць нашыя сэрцы і нашыя душы, аб’яднаць нашыя намаганні дзеля адзінай мэты. Якія б палітычныя, партыйныя, светапоглядныя, рэлігійныя адрозненні мы ні мелі, калі мы любім нашую Бацькаўшчыну – у нас не павінна быць перашкодаў, каб аб’яднацца дзеля яе выратавання. Гэта тычыцца і тых, хто жыве ў Беларусі пад прыгнётам тырана, і тых, хто быў вымушаны пакінуць радзіму і папоўніў шэрагі беларускай дыяспары.

І я, як старшыня Рады БНР, якая дзесяцігоддзямі аб’ядноўвала дыяспару барацьбе за вольную дэмакратычную Беларусь, звяртаюся да ўсіх беларусаў: давайце разам дасягнем светлай будучыні для нашай Бацькаўшчыны!

Цяпер, калі ўкраінскі народ пралівае кроў за права жыць вольна і незалежна, права мець дэмакратычную прававую дзяржаву, мы цалкам падтрымліваем яго ў гэтым намаганні. Хай нас вядзе наперад нашая змагарная “Пагоня”, і хай лунае над намі наш святы Бел-чырвона-белы сцяг!

Слава Украіне! Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла, Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**

# ЗВАРОТ РЭДАКЦЫІ BUDZMA.ORG

Шаноўныя сябры!

Мы ведаем, што ў гэты змрочны час ва ўсіх баліць душа, і многія ўспрымаюць любую інфармацыю, апроч навінаў пра вайну ва Украіне, як недарэчную. І мы гэта разумеем, і ў нас таксама ірвуцца сэрцы.

Але мы лічым сваім абавязкам нават у такіх складаных умовах заставацца вернымі сваёй місіі – несці беларускасць, дагруквацца праз беларускую культуру, мову, гісторыю да тых, хто яшчэ не зразумеў, што наша еднасць, наша бяспека, наша свабода залежаць ад асэнсавання беларусамі саміх сябе як асобнай еўрапейскай нацыі.

Штодзень мы публікуем тэксты пра значныя падзеі беларускай гісторыі, культурніцкія мерапрыемствы ў Беларусі і за мяжой, знаёмім з адметнасцямі беларускай традыцыйнай культуры, распавядаем пра беларускіх творцаў і іх меркаванне адносна важных грамадскіх пытанняў. І мы будзем працягваць гэта рабіць, каб пераканаць саміх жа беларусаў быць беларусамі. Не для забаўкі! Бо ў нашых нацыянальных каштоўнасцях, нашай нацыянальнай самасвядомасці і ўсім тым, што робіць нас беларусамі, і ёсць наша сіла!

Веданне сваёй мовы і гісторыі, наша нацыянальная самасвядомасць – гэта тое, што няздольны адабраць ніводны вораг і што можа дапамагчы нам захавацца як нацыі.

Дык давайце разам пашыраць беларускасць! Мы як рэдакцыя budzma.org усяляк будзем спрыяць гэтаму.

Чытайце наш сайт, падпісвайцеся на нашыя старонкі ў сацсетках, дзяліцеся нашымі допісамі!

Беражыце сябе і заставайцеся беларусамі!

Не вайне! Будзьма разам!

**budzma.org**

# АРГКАМІТЭТ МІЖНАРОДНАГА КАНГРЭСА ДАСЛЕДЧЫКАЎ БЕЛАРУСІ АПУБЛІКАВАЎ ЗВАРОТ СУПРАЦЬ ВАЙСКОВАЙ АГРЭСІІ Ў БОК УКРАІНЫ

Даследчыкі асуджаюць вайсковыя дзеянні з боку Расіі і заяўляюць, што вельмі важна падтрымліваць супрацу беларускім навукоўцам з украінскімі калегамі.

Арганізацыйны камітэт Міжнароднага Кангрэса даследчыкаў Беларусі рашуча асуджае вайсковую агрэсію Расіі супраць незалежнай і суверэннай Украіны. Расія парушае міжнароднае права, зневажае агульначалавечыя каштоўнасці. Нашы думкі і сэрцы разам з украінскім народам, які мужна адстойвае суверэннасць сваёй краіны.

На вялікі жаль, пазбаўленыя ў 2020 годзе дэмакратычнай легітымнасці ўлады Рэспублікі Беларусь выступілі саўдзельнікам вайсковай аперацыі Расіі. З тэрыторыі Беларусі расійскія танкавыя часткі пачалі наступленне на Кіеў, з тэрыторыі Беларусі вядзецца ракетны абстрэл Украіны, расійскія войскі выкарыстоўваюць для сваіх патрэб інфраструктуру беларускай арміі.

Гэта з'яўляецца грубым парушэннем міжнародных абавязкаў і Канстытуцыі Беларусі. Уцягванне Беларусі ў вайну – гэта злачынства і грубае ігнараванне інтарэсаў беларускага народа.

Мы павінны звярнуць асаблівую ўвагу ўкраінскай і міжнароднай супольнасці, што беларускае грамадства не падтрымлівае вайну. Пры магчымасці выбіраць дэмакратычным шляхам, беларусы ніколі не выбралі б на вышэйшыя дзяржаўныя пасады прыхільнікаў вайны і тым больш вайны з братняй Украінай.

На жаль, Беларусь з'яўляецца аўтарытарнай краінай. У 2020 годзе беларускі народ аднязначна прадэманстраваў свае імкненне да дэмакратыі і свабоды, адмовіўшы ў даверу А. Лукашэнку. Выкарыстоўваючы фізічны гвалт, маштабныя рэпрэсіі, а таксама палітычную і эканамічную падтрымку Расіі А. Лукашэнка захаваў уладу. З гэтага часу рыторыка беларускіх уладаў утрымлівае ўсё больш ксенафобіі, нянавісці да Захаду і Украіны, а таксама прапаганду фізічнага гвалту і вайны.

Акадэмічная супольнасць Беларусі актыўна падтрымала дэмакратычныя працэсы ў Беларусі, вынікам сталі масавыя рэпрэсіі – арышты, крымінальныя справы, запалохванне, звальненні з Акадэміі навук і ўніверсітэтаў. З гэтым сутыкнуліся сотні выкладчыкаў і навукоўцаў.

Няма сумневаў, што абсалютная большасць беларускай акадэмічнай супольнасці і ў Беларусі і за мяжой катэгарычна асуджае дзеянні Расіі і ўладаў Беларусі, выступае за суверэнітэт і тэрытарыяльную цэласнасць Украіны, паважае яе імкненне да свабоды і права самастойна выбіраць уласную будучыню.

Мы лічым памылковымі захады накіраваныя на спыненне супрацоўніцтва Украіны, краін ЕС і ЗША з беларускай акадэмічнай супольнасцю.

Абмежаванне кантактаў і супрацоўніцтва з дзяржаўнымі ўстановамі можа быць абгрунтавана, але спыненне кантактаў на індывідуальным узроўні і з грамадзянскай супольнасцю з'яўляецца непрадуктыўным. Гэта будзе аслабляць магчымасці беларускага грамадства супрацьстаяць прапагандзе вайны, мілітарызму і імперскага рэваншызму ўладамі Расіі і Беларусі.

Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі ад свайго заснавання ў 2011 годзе, з'яўляўся пляцоўкай дыялогу і супрацоўніцтва акадэмічнай і экспертнай супольнасцей, заўсёды выступаў з пазіцыі павагі і падтрымкі суверэнітэту, тэрытарыяльнай цэласнасці і бяспекі ўсіх краін рэгіёну і асабліва Украіны, Беларусі, Літвы і Польшчы.

Украінскія даследчыкі заўжды былі важнай часткаю Кангрэса, складаючы адну з самых вялікіх па колькасці дэлегацый. Аргкамітэт заўсёды спрыяў максімальна шырокаму ўдзелу ўкраінскіх навукоўцаў у працы Кангрэса. Мы выказваем нашу падтрымку і шчырую салідарнасць у гэты крытычны момант, а таксама гатоўнасць аказаць падтрымку украінскім навукоўцамі ўсімі даступнымі сродкамі.

Мы перакананы, што супраца паміж беларускімі і ўкраінскімі навукоўцамі мусіць быць працягнута і стаць яшчэ больш інтэнсіўнай. Акадэмічныя супольнасці рэгіёну мусяць супрацьстаяць знешняй агрэсіі. Разам узмацняючы адно аднаго.

**Андрэй Казакевіч (старшыня Арганізацыйнага камітэту), Томаш Блашчак, Віка Велічкайтэ, Русціс Камунтавічус, Дар'я Кушыцкая, Аляксей Ластоўскі (сябры Арганізацыйнага камітэту)**




26.02 Батумі, Грузія




27.02 Бостан, ЗША



10.03 Лондан, Вялікабрытанія



25.02 Варшава, Польшча




25.02 Таронта, Канада




24.02 Лондан, Вялікабрытанія



25.02 Філадэльфія, ЗША



26.02 Сіэтл, ЗША




24.02 Остын, ЗША



25.02 Фларыда, ЗША



26.03 Лондан, Вялікабрытанія


11.03 Дзюсельдорф, Нямеччына


26.02 Філадэльфія, ЗША



26.02 Остын, ЗША



11.03 Быдгашч, Польшча



6.03 Сеул, Карэя



10.03 Антверпен, Бельгія

**Беларусы за Украіну**

# ЧЫМ БЕЛАРУСЫ МОГУЦЬ ДАПАМАГЧЫ УКРАІНЦАМ?

Адзенне, абутак, медыкаменты, дзіцячае харчаванне, сухія пайкі – толькі малая частка таго, у чым сёння маюць патрэбу ўкраінцы.

Сёння шмат хто з нас задаецца пытаннем, чым мы, простыя беларусы, можам дапамагчы суседзям у сітуацыі, калі тыя, хто называе сябе дзяржаўнай уладай, фактычна падтрымлівае расійскую агрэсію, прадастаўляючы расійскім вайскоўцам тэрыторыю нашай краіны ў якасці наступальнага плацдарма?

## КАЛІ ВЫ ЗНАХОДЗІЦЕСЯ Ў БЕЛАРУСІ

Варыянтаў для тых, хто знаходзіцца ў Беларусі, няшмат: сілавы супраціў і нават мірныя мітынгі цалкам выключаны, а змена аватарак – здаецца занадта простым і наіўным спосабам спыніць вайну.

І ўсё ж, сёе-тое мы можам зрабіць.

Самы просты спосаб дапамагчы Украіне грашыма.

Цяпер даволі шмат фондаў і ініцыятыў адкрылі зборы, якія сфакусіраваны на дапамогу суседзям. На наш вялікі жаль, усе яны знаходзяцца не ў Беларусі, але большасці з іх пакуль не забаронена дапамагаць.

Такім чынам, куды можна заданаціць сродкі:



**1. Нацбанк Украіны адкрыў спецыяльны дабрачынны рахунак дапамогі краіне**

**2. “Дом для мамы” праводзіць збор гуманітарнай дапамогі для маці з дзецьмі, якія ўцяклі з Луганска і Данецка**

**3. “Галоси дітей” дапамагае дзецям, якія перажылі псіхалагічную траўму з-за вайны**

**4. “Кожен може” дапамагае дзецям з інваліднасцю з сем’яў, якія пацярпелі ад вайны**

**5. Медыцынскі батальён “Шпітальеры” займаецца аказаннем першай медыцынскай дапамогі параненым украінскім салдатам**

**6. “Восток-SOS” дапамагае пацярпелым у канфлікце на ўсходзе Украіны**

**7. “Донбасс-SOS” – актывісты Данбаса, якія займаюцца каардынацыяй дапамогі грамадзянам на ўсходзе Украіны**

**8. United Help Ukraineперадае медыкаменты на лінію фронту**

**9. Гуманітарны фонд для Украіны аказвае гуманітарную дапамогу арганізацыям, якія працуюць з бежанцамі на ўсходзе Украіны**

Калі вы ў Беларусі, вы таксама можаце падпісаць адкрытыя лісты і петыцыі, а таксама звароты ў дзяржаўныя органы, у якіх вы дакладна абазначаеце сваю пазіцыю супраць вайны і любых іншых агрэсіўных дзеянняў у рэгіёне.

**10. Калектыўны зварот з патрабаваннем спыніць акты агрэсіі, які будзе накіраваны ў Савет Міністраў, Савет Рэспублікі і Нацсход**

**11. Петыцыя ЕС аб стварэнні чыстага неба над Украінай**

А яшчэ можна стаць аддаленым валанцёрам:

**12. "Conflict intelligence team" заклікалі валанцёраў "для дапамогі ў аналізе, фільтрацыі, катэгарызацыі інфармацыі, якая паступае (фота, відэа, спадарожнікавыя здымкі)"**

**13. "Українська Валанцёрская Служба" набірае валанцёраў для дапамогі людзям – ёсць магчымасць дапамагчы аддалена**

# КАЛІ ВЫ Ў ЛІТВЕ

Можна, напрыклад, узяць удзел у зборы, які запусцілі беларусы з ініцыятывы "Актыўным быць файна".

Калі вы хочаце падтрымаць збор, то можаце зрабіць гэта фінансава ці набыць і прынесці ў офіс ініцыятывы рэчы, якія пазначаны ў гэтым спісе. Адрас ініцыятывы: Вільня, вул. Пілімо, 6. Офіс працуе з 11 да 20 гадзін.

Дарэчы, там жа будуць рады вялікім скрынкам, у якія можна пакаваць дапамогу. Яе адправяць гуманітарным маршрутам ва Украіну.

Па больш падрабязную інфармацыю звяртацца ў ТГ @dzimka75

# КАЛІ ВЫ Ў ПОЛЬШЧЫ

**1. Збор сродкаў у Польшчы**

**2. "Беларускі моладзевы хаб" збірае гуманітарку, забірае і размяшчае людзей**

**3. Склад на мяжы з Украінай, дзе прымаюцца медыкаменты, гуманітарная дапамога, сухія пайкі**

**4. Ініцыятыва якая яднае беларусаў, што жадаюць дапамагчы Украіне**

**5. Карта дапамогі, якую стварылі беларусы**

**6. Partyzanka Freeshop збірае гуманітарную дапамогу**

**7. Беларусы, якія аказваюць на мяжы дапамогу хатнім гадаванцам украінцаў**



# ЧЫМ БЕЛАРУСЫ МОГУЦЬ ДАПАМАГЧЫ УКРАІНЦАМ

## КАЛІ ВЫ Ў ЛАТВІІ

**1. Чат для тых, хто можа дапамагчы з транспартам**

**2. Калі вы кіроўца і гатовы паехаць дапамагаць на польска-ўкраінскую мяжу**

**3. Група, у якой абмяркоўваюцца варыянты дапамогі і заўсёды можна прапанаваць сваю ці далучыцца да іншай**

## КАЛІ ВЫ Ў ГРУЗІІ

У Грузіі арганізаваны пункты збору гуманітарнай дапамогі ва ўсіх буйных гарадах.

У Батумі працуе некалькі пунктаў – адзін на Парнаваза Мэпе, 46 (скрыжаванне з Гамсахурдыя), другі – на Вахтанга Гаргасалі, 54. Пункт на Парнаваза працуе кругласутачна. Арганізавалі яго грузінскія актывісты сумесна з беларускай, украінскай і расейскай дыяспарамі.

Іншыя кропкі збору ў Батумі:

Гамсахурдыя 6, adjika_batumi, 995 595091631

Парнаваз Мэпе 92/94, Batumi Dance Center, + 995 557290297

Кафэ "Мануфактура" вул. Лермантава, 21, 597165253, 592096464

Куток кавы Lavazza ў Batumi Mall (першы паверх)

Калі вы не ведаеце, што менавіта перадаць у пункт прыёму гуманітарнай дапамогі, то можаце патэлефанаваць па тэлефоне +995 568 92 92 92. Усе дзеянні штаба ўзгадняюцца з Пасольствам Украіны і Украінскай Дыяспарай Грузіі.

У Тбілісі арганізавана некалькі пунктаў гуманітарнай дапамогі, самы буйны з якіх знаходзіцца каля пасольства Украіны (Чаўчавадзэ, 76).

Іншыя кропкі збору гуманітарнай дапамогі ў Тбілісі:

Паліяшвілі, 60

Tamar Chovelidze 8. 12:00–21:00

Офіс "Shame" Аляксандра Чаўчавадзэ 8. Штодня, з 11:00 да 15:00. Кантакт: +995 574 700 740

Бар GRAALI (instagram.com/bar_graali) на Grigol Abashidze. 4.

Галактыёна Табідзэ, 9

Radio cafe, Атанэлі, 29

Пункты збору гуманітарнай дапамогі таксама адкрыты ў Кутаісі:

Sergo Kldiashvili 34, +995557758031

Чаўчавадзэ 45, рыбалоўная крама.

Штовечар грамадзяне Грузіі і прадстаўнікі ўсіх дыяспараў збіраюцца на акцыі ў падтрымку Украіны. У Батумі такія акцыі адбываюцца на Плошчы Еўропы. У Тбілісі каля будынка Парламента.

Больш падрабязна аб ініцыятывах дапамогі Украіне можна пачытаць тут: nlevshits.com/pomoshh-ukraincam-v-gruzii/

Вы можаце далучыцца да міжнароднага праекта Mapahelp mapahelp.me і паказаць, чым менавіта вы гатовыя дапамагаць Украіне.




### Беларускі каляндар памятных дат на сакавік 2022 года

**4 сакавіка**
- 95 гадоў таму, у 1927-м, нарадзіўся Міхась Дубянецкі, грамадскі дзеяч, кнігавыдавец, публіцыст, перакладчык. Памёр у 1990-м.

**5 сакавіка**
- 110 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Яўген Калубовіч (на эміграцыі Каханоўскі), гісторык, грамадска-палітычны дзеяч, літаратуразнавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1987-м.

**10 сакавіка**
- 80 гадоў таму, у 1942-м, нарадзіўся Міхась Ткачоў, грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, археолаг, педагог. Памёр у 1992-м.

**11 сакавіка**
- 135 гадоў таму, у 1887-м, нарадзіўся Алесь Гарун (сапр. Прушынскі), дзеяч нацыянальнага руху, паэт. Памёр у 1920-м.

**12 сакавіка**
- 300 гадоў таму, у 1722-м, нарадзіўся Бенедыкт Дабашэвіч, тэолаг-езуіт, філосаф. Памёр у 1794-м.

**15 сакавіка**
- 30 гадоў таму, у 1992-м, памёр Уладзімір Цвірка (да эміграцыі Вадзім Сурко), журналіст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Вялікабрытаніі і Бельгіі.

**19 сакавіка**
- 410 гадоў таму, у 1612-м, памерла Соф'я Алелька-Радзівіл, асветніца, прылічана да ліку святых.
- 160 гадоў таму, у 1862-м, памёр Аляксандр Валадковіч, адзін з кіраўнікоў паўстання 1830–1831 гг.
- 135 гадоў таму, у 1887-м, памёр Юзаф Ігнацы Крашэўскі, пісьменнік, гісторык, грамадскі дзеяч.

**20 сакавіка**
- 70 гадоў таму, у 1952-м, нарадзіўся Алесь Емельянаў, паэт. Памёр у 2005-м.
- 30 гадоў таму, у 1992-м, памерла Тамара Чабан, літаратуразнавец.

**21 сакавіка**
- 35 гадоў таму, у 1987-м, памёр Адам Русак, паэт-песеннік.

**22 сакавіка**
- 140 гадоў таму, у 1882-м, нарадзіўся Эдзюк (Эдвард) Будзька, паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч, заснавальнік кааператыўнага руху. Памёр у 1956-м.

**23 сакавіка**
- 95 гадоў таму, у 1927-м, нарадзіўся Уладзімір Шнэк, вайсковы і грамадскі дзеяч, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі. Памёр у 1955-м.

**25 сакавіка**
- Дзень Волі
- 85 гадоў таму, у 1937-м, памёр Зыгмунт Нагродскі, культурны дзеяч, паэт.

**Беларусы ў свеце**
№ 2 (237), люты 2022
Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"
(у працэсе ліквідацыі)

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 357-70-27